**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 35 (908) 31 жніўня 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае






**Напрыканцы лета – свята кветак у Глыбокім пад дэвізам "Ах, лета! Добры дзень, школа!"**

**На здымку – выхаванцы ДУА дзіцячы сад-яслі №5 г. Глыбокае, юныя артысты свята кветак, якіх прызналі лепшымі сярод дзіцячых калектываў. Алег Морхат, кіраўнік Глыбоцкага раёна, адзначыў іх салодкімі падарункамі.**
*Фота Змітра Лупача.*



ISSN 2077-8023



## Дубровенскі раён

# Стаў жытніцай да свята

■ Чэслаў Якубовіч.

**У мінулым фестывалі-ярмаркі працаўнікоў вёскі не заўсёды праводзіліся там, дзе дабіваліся добрых вынікаў працы на зямлі.**

У гэтым годзе абласныя “Дажынкі-2017” прыме Дуброўна, там кіпіць цяпер праца па падрыхтоўцы асноўных аб’ектаў райцэнтра да свята, а мясцовым хлебаром не сорамна за вынікі сваёй дзейнасці. Канец лета для вяскоўцаў выдаўся сёлета вельмі напружаным не толькі з-за моцнай спёкі, бо ім належыла ўбраць і абмалаціць зерневыя і зернебабовыя амаль на 22 тысячах гектарах пасеваў. Большыя масівы з хлебам мелі толькі два раёны вобласці, але на Дубровеншчыне пастараліся своечасова ўбраць і захаваць вырашчаны ўраджай, хоць і тут з-за асаблівасцей сёлетняй вясны і капрызнага лета са спазненнем на 10 дзён пачалі ўборку. Да жніва ў цэлым раён падрыхтаваўся нядрэнна, няспраўнымі аказаліся перад выхадам у поле толькі 8 збожжаўборачных камбайнаў. Аднак людзі моцна стараліся і ўжо ў сярэдзіне жніўня на мясцовых палетках з’явіўся першы камбайнер-тысячнік Леанід Пляшкоў з сельгаспрадпрыемства “Усход-Чырына”. Услед за ім гэты важкі рубеж намалатаў пераадолелі яшчэ пяць механізатараў раёна, а рэгіён заслужыў званне адной з лепшых жытніц Прыдзвіння. У Дубровенскім раёне да моцных дажджоў, якія крыху прыпынілі працу на палетках, паспелі ўбраць 70 % вырашчаных плошчаў. Збожжавы колас тут важкі, бо добрых вынікаў на жніве дабіліся шэраг гаспадарак краю, якія саступілі толькі сваім суседзям-аршанцам. У цэлым раён меў у вобласці другую сярэднюю ўраджайнасць, амаль 42 цэнтнеры з гектара, што таксама вышэй агульнарэспубліканскіх паказчыкаў.

## Аршанскі раён

# За моладдзю – будучыня

■ Станіслаў Раманчук.

**Каб Аршанскі раён стаў прыкладам эфектыўнай дзейнасці для іншых рэгіёнаў, дзяржава многае робіць тут для развіцця не толькі вытворчасці, але і сацыяльнай сферы.**

У гэтым годзе як ніколі Аршаншчына папоўнілася кадрамі маладых спецыялістаў. На работу толькі ў мясцовыя медустановы нядаўна прыбылі па размеркаванні 34 урачы розных спецыяльнасцей, таксама яшчэ 19 урачоў-інтэрнаў і 48 медработнікаў сярэдняга звяна. Усіх іх запрасілі на сустрэчу ў цэнтральную гарбальніцу № 1 імя Сямашкі, пазнаёмілі з далейшымі перспектывамі развіцця як асабістай кар’еры, так і планамі развіцця тут медпаслуг. На сустрэчы адзначалася, што маладым медыкам у Прыдзвінні аказваюць належную ўвагу, а кожны пяты работнік у гэтай сферы маладзей 30 гадоў. Аршанскі рэгіён у ліку іншых для аказання высокай якасці паслуг і лячэння хворых актыўна развівае сваю матэрыяльна-тэхнічную базу. Стала проста не пазнаць участковую бальніцу з паліклінікай у гарпасёлку Копысь. У самім горадзе неўзабаве запрацуе абноўлены 10-павярховы тэрапеўтычны корпус гарбальніцы, Орша стала буйным межраённым цэнтрам аказання медпаслуг, усіх работнікаў забяспечылі новым спецадзеннем, распрацаваным дызайнерамі Віцебскага тэхналагічнага ўніверсітэта. Даходы ад экспарту медпаслуг накіроўваюць на павышэнне зарплат. Мясцовую цэнтральную паліклініку прызналі лепшай у Беларусі па бытавых умовах і ахове працы. Парадавала маладых медыкаў, што ў Оршы 9 спецыялістаў забяспечылі жылплошчай у інтэрнаце, а адной сям’і ўрачоў выдзелілі адразу арэндную кватэру.

## Полацкі раён

# Вышыня – толькі для прафесіяналаў

■ Кастусь Александровіч

**Незахаванне ўстаноўленых правілаў тэхнікі бяспекі заўсёды прыводзіць да сумных наступстваў.**

Вось і сёлета пасля заканчэння выступленняў летняга цырка-шапіто ў Навапалацку днём адбылося трагічнае здарэнне. Работнікі перасоўнага цырка папрасілі 49-гадовага работніка гарадскога парку культуры і адпачынку дапамагчы ім спарадкаваць масіўны рэквізіт. Гэты дворнік згадзіўся крыху падзарабіць, дапамагаў разабраць шацёр навіснога купала. Калі прыступілі да дэмантажу металічных канструкцый, ён нібыта той гімнаст сарваўся ўніз з вялікай вышыні. У выніку падзення мужчына ледзь не загінуў, атрымаў шматлікія траўмы галавы і шыйнай часткі пазваночніка. У крайне цяжкім стане яго даставілі ў рэанімацыю бальніцы, пацярпелы не мог прыйсці ў свядомасць. Гэтым выпадкам заняліся супрацоўнікі Следчага камітэта, пачалі праверку, допыт сведкаў. Прызначаны шэраг неабходных экспертыз і высвятленне ўсіх перадумоў інцыдэнту, бо да такіх работ на вышыні неабходна прыцягваць усё ж падрыхтаваных, а не выпадковых людзей. На жаль, падобныя выпадкі ў нафтаградзе пачасціліся, бо раней тут упаў з вышыні муляр СРБУ № 3, моцна траўміраваўся і слесар ААТ “Нафтазаводмантаж”.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 31.08.17 | | | | Пятніца 01.09.17 | | | | Субота 02.09.17 | | | | Нядзеля 03.09.17 | | | | Пн.04. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +11 | +14 | +20 | +15 | +12 | +15 | +23 | +18 | +16 | +16 | +19 | +16 | +13 | +13 | +17 | +13 | +8 |
| Ціск | 750 | 750 | 749 | 749 | 748 | 747 | 747 | 747 | 747 | 747 | 747 | 747 | 748 | 749 | 750 | 751 | 752 |
| Вецер м/сек | 5 | 5 | 6 | 6 | 7 | 6 | 4 | 5 | 1 | 1 | 3 | 1 | 4 | 3 | 5 | 4 | 4 |
| | Пд | Пд-З | Пд | Пд | Пд | Пд | Пд-З | Пд | Пд-З | Пн | Пн | Пн-У | У | Пн-У | Пн-У | У | Пд-У |
| Вільготнасць | 98 | 80 | 53 | 80 | 88 | 79 | 59 | 91 | 100 | 91 | 78 | 84 | 100 | 97 | 56 | 75 | 98 |

## Аб самым надзённым

# На фоне няпростых расійска-беларускіх адносін Крэмль можа выставіць нам яшчэ і ўльтыматум па транзіце нафтапрадуктаў з айчынных НПЗ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Да таго ж сусветныя цэны на “чорнае золата” знізіліся, нам стала меней выгадна гандляваць з-за гэтага гатовымі нафтапрадуктамі з асноўнымі іх пакупнікамі ў Англіі і Галандыі.Значна больш прыбытак зноў жа з-за адлегласці дае падобны гандаль з суседняй Украінай, але рускія на гэта глядзяць коса, бо маўляў мы запраўляем палівам танкі і самалёты ворагаў-“укропаў”.**

Не паспелі мы аглянуцца, а як хутка лета праляцела і добра, што хоць у жніўні надвор’е нарэшце парадавала доўгачаканым цяплом і сонцам. Гэты фактар у сваю чаргу станоўча паўплываў на ход жніва нават у паўночнай Віцебскай вобласці, дзе ўборку пачалі пазней усіх, але выйшлі на ўдарныя тэмпы жніва і працавалі рытмічна на палетках. Напрыканцы месяца ў Беларусь пачалі прыбываць расійскія салдаты і афіцэры для ўдзелу ў прадстаячых ваенных вучэннях “Захад-2017”. Здавалася б, што ў адносінах бліжэйшых суседзяў і саюзнікаў усё нарэшце нармалізавалася, існуе поўны давер і ўзаемапаразуменне.

Аднак так, напэўна, не бывае, бо ніхто іншы, як беларускі лідар у інтэрв’ю дзяржаўнаму расійскаму тэлеканалу “Россия 24” прызнаў факт пагаршэння двухбаковых адносін і ў сваёй шчырай манеры пакрытыкаваў крамлёўскае кіраўніцтва. А. Лукашэнка тады заявіў: “сегодня начинаем шалить на границе: пограничников россияне вывели на границу, таможенники начинают себя вести непонятно как, блокируют товары, люди из третьих стран только через международные пункты пропуска. То есть недоверие уже к нам на границе под Брестом … В этом серьёзная опасность, мы начинаем откатываться”. З іншага боку кіраўніка дзяржавы, сапраўды, можна зразумець, бо на нас сталі ціснуць з любой нагоды.

Глава Беларусі запатрабаваў спыніць спад у нафтаперапрацоўцы, а як гэта зрабіць, калі Расія вырашыла паставіць нам у 3-м квартале толькі 4,5 млн. тон нафты. Расійскі прэм’ер-міністр Д. Мядзведзеў таксама не парадаваў і заявіў, што фіксаваных цэн на газ для беларусаў не будзе. Масква стала скупая, як ніколі, але пры гэтым дыктатарскаму рэжыму-банкруту М. Мадуры ў Венесуэле на халяву падкінула 6 млрд. долараў у надзеі выратаваць яго ад бясслаўнага краху. А самую гучную і трывожную заяву зрабіў днямі гаспадар Крамля У. Пуцін пасля сустрэчы з кіраўніцтвам Расійскай чыгункі. На той нарадзе глава РЖД А. Белазёраў паскардзіўся, якія яны няўдзячныя гэтыя беларусы.

Сапраўды, расіяне прапанавалі нам сёлета 50 % зніжку для перавозкі прадуктаў нафтаперапрацоўкі, выраблены з расійскай нафты на НПЗ у Мазыры і Наваполацку. Але мы адмовіліся ад паслуг расійскіх чыгуначнікаў на карысць інфаструктуры Літвы і Латвіі, спаслаўшыся, што дзейнічаюць доўгатэрміновыя і выгадныя для Беларусі кантракты. Гэта наша пазіцыя выклікала адмоўную рэакцыю чалавека № 1 на расійскіх прасторах і стала відавочна, што Беларусь з Расіяй апынуліся на парозе новай “нафтавай вайны”. Пуцін доўга не думаў і прапанаваў спалучыць далейшыя пастаўкі расійскай нафты нам з заключэннем дагавору на выкарыстанне беларускімі НПЗ інфраструктуры расійскай чыгункі і расійскіх портаў.

Іншая справа, што эканамічна апошні такі варыянт для нас не выгадны, гэта не толькі страта іміджу, але і пагаршэнне адносін з прыбалтыйскімі суседзямі. Але калі Крэмль справядліва лічыўся і дзейнічаў у адносінах з постсавецкімі краінамі? Пуцінцам і на гэты раз напляваць, што існуе хоць на паперы адзіная эканамічная прастора і пастаўкі тавараў у ёй пачынаюць абумоўліваць дзіўнымі рэчамі. Па меркаванні дасведчаных спецыялістаў, да поўнага спынення паставак расійскай нафты ў Беларусь справа дайсці не зможа. А вось зноў перавесці на галодны паёк два айчынныя НПЗ рускія ўпаўне могуць. Па гэтым пытанні зноў могуць пачацца кансультацыі, перамовы, бо відавочны канфлікт інтарэсаў суб’ектаў гаспадарання абедзвюх краін.

Для нас відавочна, што супрацоўнічаць з партамі Вентспілса, Клайпеды і Рыгі значна больш рацыянальна і танней, чым пачаць дастаўляць гатовыя нафтапрадукты і іншыя грузы пад Санкт-Пецярбург, Прыморск, Наварасійск, бо гэта бліжэй. У Расіі зараз дрэнныя адносіны з многімі дзяржавамі свету, а ў наступным 2018 яна вырашыла спыніць усялякі транзіт сваіх грузаў праз Прыбалтыку і хоча яшчэ і нас падключыць да сваёй ваяўнічай геапалітыкі. Але навошта нам быць пешкамі ў чужых незразумелых гульнях?

Да таго ж сусветныя цэны на “чорнае золата” знізіліся, нам стала меней выгадна гандляваць з-за гэтага гатовымі нафтапрадуктамі з асноўнымі іх пакупнікамі ў Англіі і Галандыі.

Значна больш прыбытак зноў жа з-за адлегласці дае падобны гандаль з суседняй Украінай, але рускія на гэта глядзяць коса, бо маўляў мы запраўляем палівам танкі і самалёты ворагаў-“укропаў”. Дарэчы, гэта праблема не новая, у той ці іншай ступені ўсходняя суседзі ўзнімалі яе і раней, але не так востра, як могуць разгортвацца далейшыя падзеі па гэтым пытанні. Самі ж простыя беларусы між тым сталі глядзець у розныя бакі граніц: трэць нашых гастарбайтараў хацелі б назаўжды застацца жыць і працаваць на расійскіх прасторах. А вось 100 тысяч суайчыннікаў ужо атрымалі карты паляка, усё часцей ездзяць на Захад, праўда, у саму Польшчу перабраліся толькі каля тысячы нашых землякоў.

## Дзень за днём

**А. Лукашэнка паабяцаў зноў рост зарплат – ужо 750 долараў. Рост ВУП Беларусі за 7 месяцаў склаў 1,1 %. У Беларусі плануюць павялічыць тэрміны знаходжання іншаземцаў без рэгістрацыі з 5 да 10 сутак. Усе радыёактыўныя адходы з БелАЭС застануцца ў Беларусі. Главы ўрадаў ЕАЭС падпісалі ўзаемнае прызнанне правоў вадзіцеляў. Часопіс ARCHE вярнулі ў кіёскі "Белсаюздруку". У беларускіх школах могуць вярнуцца да 5-бальнай сістэмы ацэнак. У Мінск прывезлі часцінку мошчаў Марыі Магдалены.**

# Важнейшыя навіны свету

**КНДР.** Глава краіны Кім Чэн Ын на сустрэчы з камандваннем стратэгічных войск заявіў, што пакуль пачакае з нанясеннем ракетнага ўдару па базе ЗША на Гуаме.

**Англія.** Урад краіны прапанаваў ЕС "часовы мытны саюз" на пераходны перыяд пасля "брэксіту" без абкладання пошлінамі пастаўшчыкоў тавараў і паслуг.

**Іран.** Прэзідэнт Х. Рауханi папярэдзіў, што калі ЗША пашыраць санкцыі супраць краіны, то Тэгеран адразу разарве пагадненне па іранскай ядзернай праграме.

**Венесуэла**. На пагрозы ЗША прымяніць ваенную сілу супраць існуючай дыктатуры прэзідэнт М. Мадура адказаў "імперыялістам" двухдзённымі ваеннымі вучэннямі.

**Германія**. Канстытуцыйны суд ФРГ звярнуўся ў суд ЕС з просьбай праверыць, ці парушае ЕЦБ праграмай скупкі аблігацый краін ЕС забарону на папаўненне дзяржбюджэтаў.

**Ірак.** Самалёты ВПС краіны пачалі бамбардзіроўкі пазіцый баевікоў ІД на поўначы, тэрарысты-ісламісты імкліва страчваюць свае ранейшыя пазіцыі ў рэгіёне.

**Расія.** Прэзідэнт У. Пуцін прапанаваў абавязаць нафтаперапрацоўчыя заводы Беларусі адгружаць выробленыя нафтапрадукты транзітам праз порты РФ, а не Літвы і Латвіі.

**Калумбія.** У горадзе Фонсека прайшла ўрачыстая цырымонія з нагоды заканчэння вайны паміж уладамі і баевікамі групоўкі FARC, за 50 гадоў баёў загінула 260 тысяч людзей.

**Польшча.** Паміж краінай і Украінай наспявае скандал з-за намераў Варшавы выкарыстаць у дызайне новага пашпарту выяву мемарыяла-могілак у гонар польскіх воінаў у Львове.

**Іспанія.** Многія іспанцы абурыліся фактам пакупкі групай мільярдэра з Расіі Міхаіла Фрыдмана пакета акцый мясцовай гандлёвай сеткі DIA, яна мела 8 тысяч магазінаў.

**Расія.** Экс-міністр эканамічнага развіцця РФ А. Улюкаеў заявіў на судзе, што справа супраць яго сфабрыкавана ФСБ пасля ілжывага даносу главы "Раснафты" І. Сечына.

**Малі.** У выніку нападзення невядомых баевікоў на дзве ваенныя базы міратворчых сіл ААН па падтрыманні міру загінула 10 вайскоўцаў у сініх касках, столькі ж былі раненых.

**Англія.** Каралева дазволіла правесці ў сваім Віндзарскім замку, рэзідэнцыі брытанскіх манархаў, вечарыну з музыкай для 500 гасцей, прысвечаную творчасці групы ABBA.

**Расія.** Услед за папулярным вядучым А. Малахавым Першы канал пакінуў пасля сваркі з дырэкцыяй стваральнік праграмы з 1992 года "Пока все дома" Ц. Кізякоў, яе закрыюць.

**Антарктыда.** Група вучоных Эдынбургскага ўніверсітэта выявіла пад 2-кіламетровым пластом лёду 91 вулкан вышынёй ад 100 да 3850 м, гэта найбольшая канцэнтрацыя вулканаў у свеце.

# Банкі - пра змены ў Банкаўскі кодэкс і датэрміновае пагашэнне крэдытаў без іх паведамлення




■ FINANCE.TUT.BY

**У Беларусі хочуць увесці магчымасць датэрмінова на працягу 14 дзён пагашаць фізічнымі асобамі крэдыты без апавяшчэння банка. Гэта прадугледжана законапраектам аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Банкаўскі кодэкс. FINANCE.TUT.**BY пацікавіўся ў банкаў, ці гатовыя яны да такога новаўвядзення.

- Чалавек, які атрымаў крэдыт, на працягу 14 каляндарных дзён зможа датэрмінова яго вярнуць, пагасіць цалкам або часткова, не паведамляючы пры гэтым папярэдне банк - адзначала раней член Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па бюджэце і фінансах Тацццяна Сайганова. Паводле яе слоў, парламентарыі рыхтуюць законапраект да першага чытання на восеньскай сесіі.

У Прыорбанку распавялі, што банк «з 2013 года прадастаўляе кліентам крэдыты без якога-небудзь абмежавання пагашэння крэдытаў, у тым ліку без павышаных працэнтаў і штрафных санкцый».

- У нас няма боязі наконт росту так званых спажывецкіх экстрэмістаў з-за планаванага новаўвядзення, так як магчымасць датэрміновага пагашэння крэдыту, у тым ліку на працягу 14 дзён без апавяшчэння банка, у нашых кліентаў ёсць і цяпер, - удакладнілі ў Прыорбанку.

У Белгазпрамбанку таксама паведамілі, што банк і сёння дае магчымасць датэрміновага пагашэння крэдытаў.

- Мы не ставім дадатковых камісій або абмежаванняў пры датэрміновым пагашэнні крэдытаў. Больш за тое, мы тлумачым сваім кліентам, што ў такіх выпадках і працэнты за карыстанне крэдытам мы лічым толькі за фактычны час карыстання крэдытам і толькі ад астатку запазычанасці, - растлумачылі ў Белгазпрамбанку.

У Белаграпрамбанку распавялі, што «не бачаць перашкод для прадастаўлення фізічным асобам магчымасці датэрміновага пагашэння крэдытаў».

- У цяперашні час гэта ў прынцыпе магчыма па асноўнай масе прадуктаў банка, - сказалі ў Белаграпрамбанку. На думку спецыялістаў, колькасць спажывецкіх экстрэмістаў, якія будуць злоўжываць магчымасцю датэрмінова пагасіць на працягу 14 дзён узяты крэдыт, наўрад ці вырасце. «Нельга сказаць, што цяпер кліенты злоўжываюць такой магчымасцю», - адзначылі ў банку.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Бяроза.** Людзей трэба прывучыць, як заявіў А. Лукашэнка, да працы і паабяцаў прымусіць працаваць "спецыфічнымі метадамі" многіх лайдакоў, хай на яго не крыўдуюць.

**Мінск.** Палітолаг П. Быкоўскі заявіў, што А. Лукашэнка як палітык шкодзіць сам сабе прымусамі працаваць, бо ў ў краіне не хапае ўсім працоўных месц, заводы не загружаны.

**Гродна.** З-за адсутнасці пакупнікоў не адбыўся аўкцыён па продажы за 2,5 мільёна долараў буйнейшай у горадзе 9-павярховай дзяржаўнай гасцініцы "Беларусь" на 188 нумароў.

**Мінск.** Прэс-сакратар Беларускай Праваслаўнай Царквы, пратаірэй С. Лепін заявіў, што царква пазбягае тых, хто ставіць пад сумненне незалежнасць нашай краіны, не прызнае непарушнасць яе граніц.

**Петрыкаў.** Лаўрэату Нобелеўскай прэміі С. Алексіевіч ідэолагі забаранілі правесці адкрытую сустрэчу з землякамі, дазволілі сустрэцца і пагаварыць з аднакласнікамі школы.

**Мінск.** Адзін з лідараў арганізацыі "Гавары праўду" А. Дзмітрыеў прапанаваў уладам амніставаць усіх беларусаў, якія ваююць у Данбасе, незалежна на чым баку.

**Брэст.** Абаронца жывёл абурыліся, што на пакзальных выступленнях дэсантнікі 38-й штурмавой брыгады перад дзецьмі разрывалі рукамі жывых вужоў і жаб.

**Мінск.** Прарасійскі аглядальнік холдынгу "СБ. Беларусь сегодня" М. Осіпаў назваў у запале ненавісную яму Польшчу "краінай-вырадкам, а горшай хіба што Украіна".

**Ліда.** Міліцыя затрымала 28-гадовага раней судзімага хлопца, які за 5 рублёў уварваўся ў дом 78-гадовага вясковага пенсіянера і пагражаў яго забіць, калі той не дасць яму грошай.

**Смалявічы.** Днём на чыгуначным пераездзе 14-гадовы школьнік на веласіпедзе патрапіў пад поезд і загінуў, пад Маладзечна перад гэтым цягнік вечарам збіў насмерць жанчыну.

**Пінск.** Пасля ўступных экзаменаў у Міждыяцэзіяльную вышэйшую духоўную семінарыю імя св. Т. Аквінскага на першы курс залічылі вучыцца 8 кандыдатаў у будучыя святары.

**Мінск.** Галоўны нарколаг краіны І. Канаразаў пацвердзіў, што медыкі разам з МУС прапануюць продаж алкаголю і піва з 9 да 23 гадзін, а рэалізацыю ноччу забараніць.

**Бераставіца.** Эксперты за пацвердзілі, што прычынай смерці 9-гадовага хлопчыка, які адпачываў у лагеры і захварэў, стаў бокавірус, ён асабліва небяспечны для дзяцей.

**Светлагорск.** Глава МУС Беларусі І. Шуневіч паведаміў, што міністэрства распрацоўвае праект па стварэнні спецгаспадарак для працаўладкавання ў іх былых асуджаных.

**Салігорск.** Каля апоўначы на нерэгулюемым пешаходным пераходзе матацыкліст збіў насмерць 37-гадовага мужчыну і трапіў у бальніцу, у краіне загінулі 3 матацыклісты.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Рассельгаснагляд вярнуў на мясцовы мясакамбінат 20 тон мясных блокаў ялавічыны, адпраўленых у Сочы, з-за нібыта парушэнняў тэмпературы іх захоўвання.

**Бешанковічы.** З мэтай арганізацыі закупак лекавых сродкаў і стварэння падобнай вытворчасці СТАА "Націвіта" наведаў міністр аховы здароўя Сірыі Вахбе Языджы.

**Талачын.** Пасля абмалоту паловы палёў зерневых мясцовы кансервавы завод пачаў уборку бульбы галандскай, нямецкай і айчыннай селекцый на плошчы 900 гектараў.

**Глыбокае.** Перад жнівом аграхолдынг камбікормавага завода набыў лепшыя ў свеце бельгійскія камбайны New Holland, яны добра паказалі сябе на палях філіяла "Мнюта".

**Полацк.** Мясцовы малочны камбінат прэзентаваў свой новы брэнд "Сафійка", пад гэтай назвай выпускаюць два віды малака і кефір у ПЭТ-бутэльках, аднавіў пастаўкі ў Расію.

**Лепель.** Адразу 11 гандлёвых павільёнаў моцна пацярпелі ў выніку пажару раніцай на рынку на вуліцы Чуйкова, там згарэў таксама дах кацельні, пакуль агонь патушылі.

**Віцебск.** Па выніках уступнай кампаніі вышэйшыя навучальныя ўстановы вобласці залічылі на першы курс 5115 студэнтаў, найбольшы конкурс быў зноў у мясцовым медуніверсітэце, на юрфаках.

**Верхнядзвінск.** Падчас маніторынгу ходу жніва міліцыя выявіла двух злодзеяў, якія скралі электрарухавікі з зернесушылкі, у вобласці на працоўных месцах не было 60 вартаўнікоў.

**Докшыцы.** Ганаровым госцем урачыстасцей з нагоды 610-годдзя сталі зямляк, контр-адмірал, Герой Расіі Уладзімір Дронаў, дэлегацыя з латвійскага ўезда Балві.

**Копысь.** У гарпасёлку, на малой радзіме А. Лукашэнкі абсталявалі самы сучасны ў Беларусі школьны стадыён з футбольным полем са штучным газонам, трэнажорамі.

**Расоны.** Падчас палявання на дзікіх гусей ля вёскі Крывялёва адзін з расіян па неасцярожнасці застрэліў свайго таварыша, суд пакараў яго 6 месяцамі калоніі-пасялення.

**Гарадок.** На глыбокім лясным возеры ля вёскі Бярэзна прама на вачах сваёй маці загінуў 18-гадовы сын, які нырнуў і не ўсплыў, юнак патануў у двух метрах ад берагу.

**Браслаў.** На возеры Дрывяты прайшлі абласныя спаборніцтвы сярод работнікаў 10 станцый выратавання людзей на вадзе і вадалазаў, пераможцам стала каманда з Оршы.

**Наваполацк.** З вельмі цяжкімі траўмамі трапіў у гарадскую бальніцу 49-гадовы дворнік гарпарку, які дапамагаў прыезджаму цырку здымаць шацёр і ўпаў з вялікай вышыні.

**Паставы.** Чацвёрты год запар у фінал рэспубліканскага турніру сярод дзяцей і падлеткаў па футболе "Скураны мяч" выйшлі юныя пастаўчане ў дзвюх узроставых групах.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэт-рэсурсаў).*

# "Віагра" расце наўпрост пад нагамі! Гэта – ярутка!

**Гэтую расліну ў нас успрымаюць як пустазелле. Няшчадна выполваюць на сваіх дзялках! Аднак ярутку палявую можна часта сустрэць ля прасёлкавых дарог, на калгасных палях, дзе растуць збожжавыя, г.зн., там, дзе часта пераворваецца зямля.**

Між тым ярутку на выгляд часта блытаюць з пастуховай сумкай. Але гэта – розныя расліны.

Ярутка адносіцца да сямейства капустных (крыжакветкавых).



Ярутка са спелым насеннем.

Чым карысная ярутка? Як вынікае з загалоўка, ярутка карысная для мужчын. Яе клічуць мужчынскай травой. Некаторыя сцвярджаюць, што ярутка дапамагае і ад прастатыту, а некаторым нават удалося вылечыцца ад яго.

Лічыцца, што ярутка дапамагае і жанчынам у вылечванні бясплоддзя.

Пры ўжыванні яруткі хворыя адчуюць паляпшэнне работы сэрца, несупастаўнае з лячэннем пігулкамі, якія ўжываюць у вялікай колькасці пры стэнакардыі, атэрасклерозе, міякардыце.

Аднак аўтар падрыхтаванага матэрыялу не збіраецца тут апісваць рэцэпты адвараў і настояў, а то, крый, Божа, абвінавацяць у лячэнні народу без ліцэнзіі і адсутнасці медыцынскай адукацыі. Як у тым фільме "Знахар" (Не хачу апынуцца ў казённым доме ў Беразвеччы!).

Аўтар жа, як краязнаўца, толькі знаёміць чытачоў з зёлкамі нашай мясцовасці. А ўжо самі шукайце літаратуру ці кансультуйцеся ва ўрача.

Скажу толькі адно – у 1995-м, пасля пераезду на радзіму з Латвіі, было цяжкавата з працаўладкаваннем... Прачытаў абвестку, што глыбоцкая аптэка закупляе зёлкі. Збіраў, сушыў па тэхналогіі, здаваў. Трохі плацілі. Таму скажу: бяссмертнік – ад печані. Тады і зацікавіўся зёлкамі.

Можа стацца так, што ярутку, некалі, будуць сеяць на сваіх дзялках, а не выполваць!

Дарэчы, спецыялісты, якія праводзяць трэнінгі па выжыванні на незнаёмай тэрыторыі для турыстаў, вайскоўцаў, рэкамендуюць ярутку (сямейства капусных) для ежы ў сырым выглядзе (кветкі і лісце).

*Уладзімір Скрабатун.*



Ярутку (злева) можна лёгка зблытаць з пастуховай сумкай (справа). Праўда, нічога страшнага! Не атруціцеся! Пастуховая сумка таксама ўваходзіць у зборы зёлак, якія дапамагаюць узняць мужчынскую сілу, хіба ў меншай ступені, чым ярутка.



# Здымак, які здзівіў усю Беларусь!

■ **Уладзімір Скрабатун**

**Здымак, паказаны ўверсе, даслаў у рэдакцыю наш чытач, які пажадаў застацца невядомым. Улічваючы, што наша газета выходзіць раз на тыдзень, то аўтар здымка абнародаваў яго яшчэ і праз інтэрнэт. Гэта значыць, усе беларусы краіны даведаліся, "што і ў дождж, і ў сцюжу" шаркоўшчынскія рабочыя ўкладваюць у Глыбокім асфальт.**

Цікава, як пасля зімы, увесну, будзе выглядаць асфальтавае палатно на вуліцы Кірава? Па логіцы – яно мусіць патрэскацца на дробныя кавалкі. Усё ж, укладваючы асфальт у лужы і гразь, пад ім могуць утварыцца пустоты, бо вада сыдзе ў зямлю, а гразь высахне.

Цяжка тут меркаваць, не бачыўшы праекта і каштарыса, ці закладзены там подсціл са жвіру (шчэбеню) сантыметраў 15-20. Магчыма, на Беларусі іншыя нормы, адрозныя, напрыклад, ад Латвіі.

З уласнага досведу ведаю, бо 15 гадоў адпрацаваў там прарабам. У праект закладваўся подсціл пад асфальт: 40-50 см – пяску, наверх – 15-20 см жвіру (шчэбню). Вібракаток дні тры ездзіў узад-уперад, трамбаваў аснову, потым паверх жвіру палівалі гарачы бітум. А ўжо потым клалі асфальт. Натуральна, пры такой падрыхтоўцы подсцілу пад асфальт на ім нават у дождж не можа быць ніякіх лужаў. Кладзі асфальт і ў дождж! Аднак заўважу, усё ж, нават пры такой падрыхтоўцы подсцілу пад асфальт, ніхто ў Латвіі асфальт у дождж не ўкладваў.

Адзначу, што апісаная аўтарам тэхналогія ўкладкі асфальту датычыла дваровых праездаў і пляцовак у мікрараёнах, якія мы будавалі. Але ж вуліца Кірава не дваровы праезд паміж двума 5-павярховікамі, а вуліца з інтэнсіўным рухам, па якой ездзяць не толькі легкавыя, але і грузавыя машыны. Тут – больш павышаныя патрабаванні!

Разумею, што Шаркоўшчынскі раён – самы бедны раён нашай краіны, займае апошняе 117-е месца па заробках. Людзей трэба шкадаваць, даваць ім працу, хоць і ў Глыбокім. Аднак жа, для каго тады даюцца прагнозы метэаролагаў. За два дні было вядома, што больш за суткі будзе доўжыцца залева, быў нават абвешчаны аранжавы ўзровень небяспекі па краіне. Можна было загадзя спланаваць работы і ў гэты дажджлівы дзень прадставіць людзям іншую работу, або даць адгул, які потым рабочыя адпрацуюць.

Не жылі мы ніколі багата, і не будзем!

# Апошняя бітва сезона, калі паражэнне "смерці падобнае": ФК "Глыбокае"- ФК "Мёры" – 5:4

Паражэнне "смерці падобнае" – так ахарактарызаваў важнасць гэтага матчу для глыбачан Уладзімір Шык, прэс-сакратар пастаўскай каманды "ПМЦ", які адмыслова паехаў у Глыбокае, а не ў Лепель, дзе пастаўскі "ПМЦ" гуляў з ФК "Лепель", і матч там скончыўся мірна – нулявой нічыёй.

Інтрыга ў тым, якія чатыры каманды з групы "А" выйдуць у наступны этап і згуляюць з чатырма лепшымі камандамі групы "Б", дзе вызначыцца чэмпіён Віцебскай вобласці, які атрымае кубак, а таксама каманды, якія атрымаюць медалі прызёраў чэмпіянату. Прайграе гэты матч ФК "Глыбокае" – усё, чэмпіянат для іх скончыўся, апошні матч у групе, можна потым спакойна ісці ды капаць бульбу. "Мёры выходзяць у наступны этап? У ФК "Мёры" яшчэ застаўся і не згуляны матч з лідарам "Полацкгаз" на яго полі. Матч адмыслова перанеслі на Дзень беларускага пісьменства, каб сабраць на стадыёне як мага больш заўзятараў. Там "Мёрам" нічога не свеціць! "Публічнае збіццё" – на вачах тысячаў людзей, гасцей свята. У ФК "Лепель", наогул, яшчэ дзве гульні ў запасе!

Важнасць выніку для абедзвюх камандаў зрабіла свой адбітак на матч.

Першы мяч у вароты гасцей забіў Аляксандр Палачанін (№10), докшыцкі "легіянер". Праз пяць хвілінаў Мікалай Вітвіцкі (№12) даводзіць лік да – 2:0. Пачатак добры! Але мёрскія футбалісты прыехалі ў Глыбокае не як "мальцы для збіцця". Праз чатыры хвіліны, у выніку розыгрышу штрафнога, Арцём Драздовіч робіць лік – 2:1. Аднак імклівыя атакі глыбачан вымушалі гасцей рабіць памылкі ў сваёй штрафной! Пенальці! Сяргей Крыкун (№5) робіць вынік – 3:1.



Небяспечны момант гульні у варот гасцей!

У выніку грубай памылкі ў абароне гасцей іншы докшыцкі "легіянер! Юрый Сяржант даводзіць лік да – 4:1. Аднак не мінула і дзвюх хвілінаў, як зноў жа Арцём Драздовіч забівае гаспадарам гол у адказ – 4:2. Так скончылася першая палова гульні.

Неўзабаве, у пачатку 2-а тайма Мікалай Вітвіцкі робіць лік – 5:2 на карысць глыбачан. Здавалася б, гульня зробленая! Не! Пасля гэтага мёрскія футбалісты надоўга ўзялі глыбоцкія вароты ў аблогу. Варта адзінаму глыбачаніну неяк вырвацца з аблогі, як адразу мёрскія футбалісты адбіралі мяч ды працягвалі абстрэльваць глыбоцкія вароты. Лік становіцца – 5:3, праз сем хвілінаў – 5:4. Здавалася, яшчэ некалькі імгненняў - і будзе роўны лік, а затым мёрскія футбалісты вырвуць перамогу ў гасцях. На апошняй хвіліне матчу адбылася рашучая контратака глыбачан, варатар гасцей выйшаў далёка наперад, да лініі штрафной, і прайграў барацьбу за верхавы мяч. І ўжо, за спіной варатара, мяч – скок, скок, скок... І куды яму дзецца, як толькі не ў пустыя вароты! Не! Стукнуўся ў верхнюю бэльку ды адляцеў назад у поле...

Цяпер ужо не важна, ці перамесціцца ФК "Глыбокае" з другога месца на трэцяе, ці на чацвёртае. Глыбоцкая каманда па-любому працягне барацьбу ў фінальнай групе Чэмпіянату Віцебскай вобласці, разам з "ПМЦ" і "Полацкгазам". Хто будзе чацвёрты? Можа, неверагодна, "Мёры", усё ж, заваляць "Полацкгаз", або дадасца ФК "Лепель"?

*Уладзімір Скрабатун.*

■ Карнатка Е. Э.,
*начальнік Глыбоцкага раённага аддзела Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва.*

# Своечасовая і поўная выплата абавязковых страхавых узносаў у бюджэт Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва – аснова сацыяльнай абароненасці грамадзян

**У Глыбоцкім раёне на сённяшні дзень больш за дванаццаць тысяч працуючых грамадзян. Кожны з іх мае роўныя правы на годную аплату сваёй працы і на сацыяльныя гарантыі з боку дзяржавы.**

Адным з асноватворных прынцыпаў дзяржаўнага сацыяльнага страхавання ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляецца абавязковы ўдзел працадаўцаў і працуючых грамадзян у фарміраванні дзяржаўных пазабюджэтных фондаў сацыяльнага страхавання. Выплачваючы страхавыя ўзносы ў бюджэт Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва своечасова і ў поўным аб'ёме, працадаўца гарантуе сваім работнікам сацыяльную абароненасць з боку дзяржавы, якая рэалізуецца з дапамогай сістэмы выплат пенсій і дапамог.

Ад паўнаты выплаты працадаўцам страхавых узносаў залежыць памер будучай пенсіі яго работнікаў.

У адпаведнасці з арт. 51 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсійным забеспячэнні» ў стаж працы для прызначэння пенсіі залічваюцца перыяды работы пры ўмове, што на працягу гэтых перыядаў ажыццяўлялася выплата абавязковых страхавых узносаў у парадку і памерах, устаноўленых заканадаўствам. Нявыплата або няпоўная выплата ўзносаў скарачае перыяд работы, які працаўніку залічваецца ў працоўны стаж, што непасрэдным чынам адаб'ецца на памеры пенсіі ў будучыні.

Залежыць ад паўнаты выплаты ўзносаў і памер дапамог па часовай непрацаздольнасці, дапамог па цяжарнасці і родах.

Своечасовасць выплаты страхавых узносаў мае сацыяльнае значэнне велізарных маштабаў, бо яна з'яўляецца крыніцай выплаты пенсій па ўзросце, па інваліднасці, па страце карміцеля і іншых відаў пенсій і дапамог, у тым ліку дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей.

На жаль, ужо з 2015 года ў нашым раёне існуюць арганізацыі, якія пералічваюць страхавыя ўзносы за сваіх работнікаў несвоечасова і не ў поўным аб'ёме, што прывяло да ўтварэння пратэрмінаванай запазычанасці па выплаце страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны, якая дынамічна ўзрастае.



На 01 ліпеня 2017 года 16 арганізацый Глыбоцкага раёна маюць пратэрмінаваную запазычанасць па выплаце абавязковых страхавых узносаў. Найбольшыя сумы запазычанасці маюць такія арганізацыі, як ААТ «Глыбоцкі камбікормавы завод», ААТ «Глыбоцкая птушкафабрыка», ААТ «Канстанцінаў Двор», Дзяржаўнае прадпрыемства «Азярцы», Сельскагаспадарчы філіял «Прошкава», ААТ «Залатая падкова», Дзяржаўнае прадпрыемства «Стрынадкі».

**Як вынік - амаль дзве тысячы работнікаў у нашым раёне застаюцца на сённяшні дзень без пацвярджэння працоўнага стажу.**

Спіс арганізацый-даўжнікоў Глыбоцкага раёна і сумы іх пратэрмінаванай запазычанасці размешчаны на афіцыйным сайце Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва ***www.ssf.gov.by.***

Калі Вы занепакоеныя пытаннем вашай будучай пенсіі, ці ў вас ёсць пытанні, якія тычацца перыяду выплаты за вас абавязковых страхавых узносаў, вы можаце звярнуцца ў раённы аддзел Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва на тэлефоны: 2-23-80, 2-23-32, 2-10-72, альбо па адрасе г. Глыбокае, вул Леніна, д. 42, каб.78, 80.

■ Уладзімір Скрабатун

# Ізноў у Мярэцкіх праблема, цяпер з могілкамі!

**У рэдакцыю нашай газеты звярнуўся Чэслаў Вайтэцкі, жыхар вёскі Мярэцкія. Ён паскардзіўся на Глыбоцкую ЖКГ, якая прыбрала сабе ў падпарадкаванне могілкі ў гэтай вёсцы, хоча браць грошы з людзей за пахаванні, але не ў стане выканаць свае абавязкі!**

Аўтар наведаў вёску Мярэцкія, сустрэўся на могілках з групай людзей, якія абураныя такімі парадкамі.

– ***Апавядзіце аб праблеме, якая змусіла сабраць тут гэтых людзей,*** – звярнуўся аўтар да спадара Вайтэцкага.

**Чэслаў Вайтэцкі:** "Я адпрацаваў 10 гадоў начальнікам участка добраўпарадкавання Глыбоцкай ЖКГ. У маім падпарадкаванні, акрамя таго, было і трое могілак: у Харашках, на вул. Горкага (Копцеўка), а таксама на вул. Чырвонаармейскай. Але такога бязмежжа тады не было, як цяпер! Паставілі ў Мярэцкіх стэнд з абвесткамі на могілках, а нічога не робяць! Я 3 ліпеня хаваў жонку Скурат Чаславу Аляксандраўну і не мог яе пахаваць! Чаму? Трэба замовіць у ЖКГ людзей – капачоў. А ў іх – свята і капачоў няма! Ды там яшчэ, у Глыбокім, таксама хавалі нябожчыка. Капачоў не хапае! І кажуць мне: заўтра хавай! Гэта Плыгаўка Аляксандра, якая на маім месцы працуе, так сказала. А я пярэчу: "Вы што там – зусім звар'яцелі!" І раяць мне: альбо плаці грошы ЖКГ – і хавай сваімі людзьмі! Ладна, я пахаваннем не займаўся, а займаўся мой сын. Мы выйшлі на сп. Шэршня і праз яго выйшлі на сп. Шымковіча і толькі так пахавалі чалавека. Ну, што гэта такое?! Што за работа! Калі вы завялі такія парадкі, то, будзьце ласкавыя, – арганізуйце работу! Стварайце брыгады, калі ўжо ў вас не хапае работнікаў. Ці вы толькі здольныя з людзей грошы браць?

У горадзе рады не могуць даць! А яны яшчэ забралі сабе і могілкі ў Мярэцкіх! Вось такая праблема і такое бязмежжа!"

Аўтар прачытаў прэйскурант коштаў на пахаванне нябожчыка на інфармацыйным стэндзе, якія прапануе Глыбоцкая ЖКГ:

– дамавіна простая – 25 руб.00 кап.;

– крыж – 14 руб. 31 кап.;

– дамавіна з упрыгожваннямі – 126 руб. 40 кап.;

– пахаванне шляхам прыдання цела (парэшткаў) нябожчыка зямлі (пахаванне ў магілу, склеп) у летні час (капанне магілы, апусканне дамавіны, засыпка магілы, афармленне пагорка, усталяванне крыжа) – 45 руб. 00 кап.;

– пахаванне шляхам прыдання цела (парэшткаў) нябожчыка зямлі (пахаванне ў магілу, склеп) у зімовы час (капанне магілы, апусканне дамавіны, засыпка магілы, афармленне пагорка, усталяванне крыжа) – 75 руб. 00 кап.



Жыхары вёскі Мярэцкія абмяркоўваюць паведамленні, размешчаныя на інфармацыйным стэндзе Глыбоцкага ЖКГ на вясковых могілках.




Інфармацыйны стэнд Глыбоцкай ЖКГ на могілках у в. Мярэцкія, які паведамляе аб забароне самавольных пахаванняў, а таксама ўказвае кошты рытуальных паслуг.

Аўтар гэтых радкоў у выкладанні праблемы сп. Вайтэцкім не заўважыў у яго словах нагоды для стварэння беспадстаўнай канфліктнай сітуацыі з Глыбоцкай ЖКГ за парадкі, усталяваныя ёй, а толькі крытычныя заўвагі: хочаце браць грошы за пахаванні, то тады рабіце гэтую справу сумленна, каб было за што плаціць! Каб нябожчык не ляжаў у дамавіне і не "чакаў" сваёй чаргі некалькі дзён у летнюю спёку…

Трэба сказаць, што ў Еўропе, напрыклад, у Польшчы, парадкі яшчэ больш строгія! Таксама забароненыя самавольныя пахаванні, больш таго – сваякам трэба плаціць за арэнду месца пахавання, калі ж сканчаецца тэрмін арэнды, то прыходзіць паведамленне аб прапанове працягу арэнды месца пахавання. Не заплацяць сваякі – камунальнікі раскапаюць яму і ў ёй жа пахаваюць помнік. Так патлумачыў аўтару тамтэйшыя парадкі Уладзімір Шык, журналіст з Паставаў, які мае сваякоў у Польшчы.

Напэўна, некалі і нам на Беларусі не мінуць гэтага… А хто ў нас будзе плаціць арэнду? Некаторыя сем'і, напрыклад, не хочуць наогул заводзіць дзяцей…

■ Д. В. Ждановіч,
*старэйшы інспектар па АП АДАІ Глыбоцкага РАУС.*

# Ужо сёння трэба ездзіць з уключаным святлом фар!

**25 жніўня прайшоў Адзіны дзень бяспекі дарожнага руху пад дэвізам "Бяспека дзяцей на дарозе – задача дарослых!", прысвечаны прафілактыцы дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму.**

Дзеці – асаблівая катэгорыя ўдзельнікаў дарожнага руху і патрабуе ўзмоцненай увагі. Дзяржаўтаінспекцыя пастаянна звяртаецца да ўсіх дарослых з рэкамендацыямі аб абавязковым правядзенні са сваімі дзецьмі гутарак аб дарожнай бяспецы, у ходзе якіх неабходна тлумачыць дзіцяці, што нават у сельскай мясцовасці нельга ні на хвіліну зніжаць увагу паблізу дарог, нагадваць аб правілах кіравання роварам, недапушчэнні гульняў на праезнай частцы і небяспечным захапленні матацыклам.

З 25 жніўня па 5 верасня, напярэдадні новага навучальнага года, праводзіцца традыцыйнае спецыяльнае комплекснае мерапрыемства па бяспецы дарожнага руху пад дэвізам "Увага – дзеці!" з мэтай папярэджання дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму, скарачэння няшчасных выпадкаў на дарогах з дзецьмі. У ходзе дадзенага мерапрыемства па ўсёй Рэспубліцы з 1 па 5 верасня ў школе пройдзе Тыдзень бяспекі дарожнага руху. Спецыяльнае комплекснае мерапрыемства накіравана не толькі на маленькіх удзельнікаў дарожнага руху, але і на дарослых. Супрацоўнікамі ДАІ будуць арганізаваны і праведзены выступленні перад навучэнцамі школ, выхаванцамі дзіцячых дашкольных устаноў, а таксама ў працоўных калектывах з мэтай інфармавання аб праблемах бяспечнага ўдзелу дзяцей у дарожным руху і растлумачэнні асноўных прычын і наступстваў дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму і прафілактычных мер па яго папярэджанні. Будзе таксама актывізавана праца ДПС ДАІ па папярэджанні і спыненні парушэнняў ПДР, якія прыводзяць да траўміравання дзяцей.

Каля 70% ад агульнай колькасці ДТЗ, дзе пацярпелі дзеці, адбываецца па віне дарослых. У большасці выпадкаў – гэта дзеці-пасажыры. Выкарыстанне дзіцячых утрымлівальных прылад, можа на 71% знізіць смяротнасць у ДТЗ грудных дзяцей і на 54% – дзяцей ранняга ўзросту. Выкарыстанне належнай дзіцячай утрымліваючай прылады залежыць ад узросту і вагі дзіцяці: крэслы, павернутыя спінкай наперад, асабліва эфектыўныя для грудных дзяцей, прылады са спінкай, звернутай назад, падыходзяць для дзяцей малодшага ўзросту, а крэслы-бустэры з рамянямі бяспекі эфектыўныя для дзяцей больш старэйшага ўзросту. Асноўнымі парушэннямі Правілаў дарожнага руху дзецьмі з'яўляюцца:

- пераход праезнай часткі ў не вызначаным месцы або на забараняльны сігнал святлафора;
- раптоўны выхад на дарогу з-за транспарту, які стаіць;
- гульня на праезнай частцы (катанне на роліках, роварах).

Прафілактыкай дзіцячага транспартнага траўматызму займаюцца педагагічныя калектывы дзіцячых садоў і школ. Аднак толькі іх намаганняў пакуль недастаткова. Каб прышчапіць дзіцяці павагу да Правілаў дарожнага руху, патрабуецца штодзённая бацькоўская ўвага. Не забывайце нагадваць дзіцяці, як паводзіць сябе на вуліцы. Памятайце, што для дзяцей вельмі важна, як вы асабіста паводзіце сябе на дарозе. Бацькі, ці заўсёды вы ўлічваеце, што за вамі назіраюць дзеці, каб тут жа паспрабаваць паўтарыць кожны ваш крок. Памятайце пра гэта. Азнаямленне дзяцей з Правіламі дарожнага руху, выхаванне навыкаў бяспечных паводзінаў на вуліцы не прынясе жаданых вынікаў, калі ў гэтым працэсе не будуць удзельнічаць бацькі. Інспектара ДАІ дзеці ўважліва слухаюць. Яшчэ больш уважліва яны слухаюць настаўніка, але бяруць прыклад з бацькоў.

Адна з асноўных прычын дарожных здарэнняў з дзецьмі складаецца ў тым, што дзеці ў сваіх паводзінах на вуліцы кіруюцца назіраннямі за дзеяннямі дарослых у падобных сітуацыях. На жаль, гэтыя дзеянні не заўсёды бываюць правільнымі. Як жа навучыць дзіця бяспечным паводзінам на вуліцы? Аднымі засцярогамі тыпу «будзь асцярожны» справе істотна не дапаможаш. Неабходная штодзеннае трэніроўка рухаў, увагі дзіцяці ў спалучэнні з пастаянным асабістым прыкладам бацькоў. Ужо ў тры гады дзіцяці можна вучыць, як правільна пераходзіць дарогу. Толькі ў гэтым выпадку ў дзяцей могуць выпрацавацца цвёрдыя навыкі бяспечных паводзін на вуліцы. Важна выхаваць у дзяцей наступныя віды навыкаў. Навык назірання. Навучыце дзіцяці бачыць прадметы, якія закрываюць агляд праезнай часткі. Для гэтага яму трэба шматкроць паказваць з тратуара гэтыя прадметы тады, калі яны хаваюць, вось-вось схаваюць або толькі што схавалі аўтамабіль, які рухаецца. Такім жа чынам дзіця павінна навучыцца бачыць фактары, якія адцягваюць яго ўвагу, як сігналы небяспекі. Такім фактарам можа быць аўтобус, які спыніўся на супрацьлеглым баку вуліцы. Спяшаючыся, людзі нярэдка трапляюць пад колы аўтамабіля, так як іх ўвага ў гэты момант пераключана толькі на аўтобус.

Навык спакойных паводзін на вуліцы. Ён выхоўваецца на асабістым прыкладзе бацькоў. Гэты навык вельмі важны для дзіцяці, таму дарослы, ідучы па вуліцы з сынам ці дачкой, не павінен хваляваца або спяшацца, якія б абставіны да гэтага не прымушалі! Навык пераключэння на вуліцу. Бардзюрны камень тратуара – гэта мяжа, за якой сканчаюцца звычкі, якія дзейнічаюць у побыце. Навучыце дзіцяці заўважаць гэтую мяжу: запавольваць рух, спыняцца, вытрымліваць неабходную паўзу для псіхалагічнага пераключэння ў сувязі з пераходам у небяспечную зону. І тут прыклад бацькоў мае вырашальнае значэнне. Навык пераключэння на самакантроль. Патрапіўшы на праезную частку, дзіця павінна сачыць за сваім паводзінамі, правільна ацэньваць дарожную абстаноўку. Выпрацоўка такога навыку патрабуе пэўнай трэніроўкі. Вусная інфармацыя аб тым, што неабходна, пры пераходзе вуліцы, паглядзець спачатку направа, а затым – налева не дзейнічае належным чынам. Вучыце гэтаму дзіцяці на практыцы. Пагуляйце з ім у гульню: Вы – дзіця, а ён – бацька, які пераводзіць Вас праз дарогу. Ваша дзіця носіць акуляры. Яны «выпраўляюць» зрок толькі перад сабой. Так званы бакавы зрок, які іграе важную ролю для юнага пешахода, застаецца аслабленым! Таму вучыце Вашага дзіцяці з асаблівым стараннем, каб яно магло пазнаваць тыповыя сітуацыі закрытага агляду, адцягнення ўвагі, дзеянні не гледзячы, правільна ацэньваць хуткасць надыходзячай машыны. Памятайце! Адно няправільнае дзеянне бацькоў на вачах у дзіцяці або разам з ім можа перакрэсліць усе славесныя засцярогі. Таму з дзіцяці – ніякай спешкі на праезнай частцы, ніякага бегу праз дарогу да аўтобуса, ніякіх размоў пра старонняе падчас пераходу, ніякіх рухаў наўскасяк, у баку ад пераходу, на чырвоны сігнал святлафора.

**Хочацца нагадаць вадзіцелям:**

- будзьце гатовыя да раптоўнага з'яўлення дзяцей на праезнай частцы;
- выконвайце хуткасны рэжым пры перасячэнні пешаходных зон.

**Паважаныя дарослыя!** Штодня нагадвайце сваім дзецям аб правілах дарожнага руху, будзьце самі прыкладнымі пешаходамі і патрабуйце гэтага ад дзяцей. Пры руху па дваровых тэрыторыях, асабліва пры руху заднім ходам, перш, чым пачаць рух, пераканайцеся, што паблізу няма дзяцей, улічвайце іх невялікі рост і тое, што вы можаце іх проста не ўбачыць з-за прыпаркаванага аўтамабіля, смеццевага бака і г. д. Каля школ і іншых навучальных устаноў, заўсёды зніжайце хуткасць, асабліва на пешаходных пераходах. Найбольш цяжкія ДТЗ здзяйсняюць вадзіцелі, якія не зніжаюць хуткасць, калі ў суседніх палосах аўтамабілі прытармажваюць або спыняюцца, каб прапусціць пешаходаў. Па меншай меры палова дзяцей загінулых у якасці пасажыраў засталіся б жывыя, калі б бацькі іх прышпілілі або паклапаціліся з устаноўкай дзіцячага аўтамабільнага сядзення. Задумацца пра аўтакрэсла варта яшчэ на этапе планавання сям'і, а купляць яго варта адначасова з ложкам і калыскай. Калі ж крэсла няма, то не дазваляйце дзіцяці стаяць у аўтамабілі.

Бацькі часта забываюць аб тым, што менавіта ім пераймаюць іх дзеці, капіюючы іх мадэль паводзінаў, у тым ліку і на вуліцы. Таму дарослыя павінны пачаць з сябе і сваім прыкладам дэманстраваць правілы бяспечных паводзін: збіраючыся пераходзіць вуліцу, пераканацца ў адсутнасці небяспекі, перасякаць праезную частку толькі па пешаходным пераходзе і толькі на зялёны сігнал святлафора. Не ленавацца карыстацца падземнымі пераходамі. А сядаючы ў машыну – прышпільвацца рамянём бяспекі.

Неабходна выбраць самы бяспечны маршрут ад дома, пажадана пракладваць яго праз рэгуляваныя пешаходныя пераходы. Праходзячы па выбраным шляху, прамаўляць самыя небяспечныя моманты: «Ідзеш міма стаянкі, пераканайся, што адтуль не выязджаюць машыны. Звярні ўвагу на гэты пераход: тут вельмі ажыўлены рух, нават калі ідзеш на зялёны сігнал святлафора – глядзі па баках» пераканайся, што цябе прапускаюць і г. д. Таксама неабходна растлумачыць дзіцяці, што нельга гуляць каля прыпаркаваных аўтамабіляў, нельга бегаць адзін за адным праз вуліцу, нельга катацца з горкі каля праезнай часткі. А самае галоўнае – прыглядаць за дзецьмі, калі яны гуляюць. Часцяком менавіта недагляд дарослых становіцца прычынай трагедыі.

Каб пазбегнуць трагедыі, дарослыя павінны пастаянна нагадваць дзецям элементарныя правілы бяспечных паводзін на дарозе – да тых часоў, пакуль правільныя дзеянні не ўвойдуць у звычку. Падчас правядзення спецыяльнага комплекснага мерапрыемства Дзяржаўтаінспекцыя нагадвае, што ў светлы час сутак вадзіцелі павінны рухацца з уключаным блізкім святлом фар (п. 166.9 ПДР).

■ А. М. Ішуцін,
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА «Энерганагляду».*

# Рамонт электрычных прыбораў павінен выконваць толькі кваліфікаваны спецыяліст

Усе мы ведаем, што з электрычнасцю трэба абыходзіцца асцярожна. Аднак у межах роднага дома, ва ўтульнай абстаноўцы, у асяроддзі звыклых рэчаў, як мы часам легкадумна забываем пра тую небяспеку, што бяжыць па правадах. Наступствы няправільнага ці неасцярожнага абыходжання з электрапрыборамі могуць быць вельмі сумныя.

Як ні дзіўна, але прычыны няшчасных выпадкаў з электрычнасцю ў быце застаюцца практычна нязменнымі на працягу дзесяцігоддзяў — гэта парушэнне правіл эксплуатацыі ці выкарыстанне няспраўных электрапрыбораў, неасцярожнасць і няўважлівасць пры абыходжанні з электрычнасцю, спробы самастойнай разборкі і рамонту электрапрыбораў. Здавалася б, аб гэтых прычынах ведаюць і памятаюць усе, пачынаючы з дзіцячага садкоўскага ўзросту, але многія ўпарта



не прыслухоўваюцца да папярэджанняў. З пункту гледжання псіхалогіі гэта зразумела: у сваёй кватэры чалавек адчувае сябе ў бяспецы, бытавыя прыборы з'яўляюцца для яго толькі часткай камфортнай абстаноўкі, а звычка рэгулярнага карыстання імі аслабляе пачуццё асцярожнасці. А цяпер разгледзім некалькі агульных рэкамендацый па бяспечным выкарыстанні электрапрыбораў у быце.

**1.** Своеасаблівым «слабым месцам» многіх электрапрыбораў з'яўляецца сеткавы шнур. З-за частых выгібаў з часам магчымы надлом або абрыў токаводнай жылы, што вядзе да іскрэння, нагрэву і, магчыма, узгарання ізаляцыі провада. Часцей за ўсё такое пашкоджанне ўзнікае ў месцы мацавання шнура да вілкі. Не цягніце за шнур, каб выцягнуць вілку з разеткі. Неабходна таксама сачыць за спраўнасцю ізаляцыі сеткавага шнура, так як любы дотык да аголелага праводу можа мець сур'ёзныя наступствы. Ніколі не карыстайцеся электрапрыборамі з пашкоджанай ізаляцыяй провада.

**2.** Рамонт электрычных прыбораў, напрыклад, посудамыйных машын, павінен выконваць толькі кваліфікаваны спецыяліст.

**3.** Вентыляцыйныя адтуліны электрапрыбораў – зона павышанай увагі. Не дапускайце пападання праз іх вадкасцяў або металічных прадметаў унутр прыбора. Для гэтага ніколі не стаўце на тэлевізар, манітор, прайгравальнік вазы з кветкамі, не дазваляйце дзецям кідаць што-небудзь унутр корпуса праз адтуліны, не кладзіце на паверхню электрапрыбораў дробныя металічныя рэчы (сашчэпкі, шпількі, ключы і т. п.). У той жа час нельга чым-небудзь закрываць вентыляцыйныя адтуліны, каб пазбегнуць узгарання прыбора.

**4.** Ніколі не карыстайцеся электрапрыборамі ў ваннай ці пад душам – вільготная скура і зазямляючая ўласцівасць металічнай ванны не пакінуць вам шчаслівага шанцу ў выпадку падзення прыбора ў ваду ці наяўнасці пашкоджанняў у яго ізаляцыі. Таксама не карыстайцеся электрапрыборамі з сілкаваннем ад электрасеткі на вуліцы ў час дажджу, снегападу або туману.

**5.** Не пакідайце электрапрыборы ўключанымі без нагляду. Гэта тычыцца таксама і прылад, якія могуць функцыянаваць у так званым «дзяжурным рэжыме», практычна не спажываючы электраэнергіі, але застаюцца падключанымі да сеткі для выканання некаторых сваіх функцый.

**6.** Запрасіце спецыялістаў для праверкі стану электраправодкі і электрычных прыбораў у вашай кватэры. Звярніце ўвагу на абавязковую наяўнасць зазямлення карпусоў электрапрыбораў. Можна таксама ўсталяваць прыладу ахоўнага адключэння (УЗО) – спецыяльны аўтамат, адключальны падачу электратоку ў выпадку дотыку чалавека да токаводных частак абараняемай электрасеткі.

**7.** Растлумачвайце дзецям правілы карыстання электрапрыборамі, для маленькіх дзяцей і хатніх жывёл абмяжуйце магчымасць непажаданага кантакту з электрычнасцю: закрыйце разеткі спецыяльнымі заглушкамі, не пакідайце ў разетцы вілку шнура сілкавання, нават калі электрапрыбор выключаны.

Выкананне гэтых простых правілаў паслужыць гарантам бяспекі для вас і вашых блізкіх.

## МНС інфармуе
**на 29.08.2017 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 449;
Гібель людзей – 56, з іх дзяцей –1;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 26;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма

За **2016 год** у раёне адбылося **20** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.
За **2015 год** у раёне адбылося **36** пажараў, на якіх загінулі **3** чалавекі.

# Праіндэксавалі: як падаражэе «камуналка» з 1 верасня



■ Алена Прус, БЕЛТА

**З 1 верасня для беларусаўвырастуцьцэны на прыродны і звадкаваны газ, а таксама тарыфы на электрычную і цеплавую энергію. Індэксацыя прадугледжана пастановай Савета міністраў ад 24 жніўня 2017 г. № 641. Такім чынам, за камунальныя паслугі спажыўцы заплацяць на 8% больш.**

Тарыф на цеплавую энергію для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння складзе 16,9259 рубля за 1 Гкал. Тарыф за кубаметр газу ў дамах і кватэрах, дзе ёсць прыборы індывідуальнага ўліку расходу газу і індывідуальныя газавыя ацяпляльныя прыборы, у ацяпляльны сезон складзе 0,0983 рубля (да падаражэння – 0,0911 рубля). Летам 1 кубаметр газу будзе каштаваць 0,3081 рубля (раней – 0,2853 рубля). Пры адсутнасці індывідуальных газавых прыбораў тарыф складзе 0,3081 рубля за кубаметр газу незалежна ад сезона.

Калі ў хаце ці кватэры не выкарыстоўваюцца прыборы індывідуальнага ўліку расходу газу, але ёсць газавая пліта і цэнтралізаванае гарачае водазабеспячэнне або індывідуальны воданагравальнік (за выключэннем газавага), кошт складзе 2,44 рубля з аднаго чалавека ў месяц (раней – 2,26 рубля). Тарыф на газ у жыллё, дзе ёсць газавая пліта і індывідуальны газавы воданагравальнік, але няма цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння, складзе 7,05 рубля за кубаметр (да падаражэння – 6,53 рубля).

Кубаметр газу ў кватэрах і дамах, дзе ёсць газавая пліта, але няма цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння і індывідуальнага газавага воданагравальніка, будзе каштаваць 3,98 рубля (было – 3,69 рубля).

У жыллё, дзе ёсць індывідуальныя газавыя ацяпляльныя прыборы, але няма прыбораў індывідуальнага ўліку расходу газу, у ацяпляльны перыяд прыйдзецца плаціць 0,4874 рубля за 1 кв. м агульнай плошчы жылога памяшкання ў месяц (раней – 0,4513 рубля), у летні перыяд – 0,1827 рубля (раней – 0,1692 рубля).

Кубаметр звадкаванага газу ў кватэрах і дамах з устаноўленымі прыборамі індывідуальнага ўліку расходу газу і індывідуальнымі газавымі ацяпляльнымі прыборамі ў ацяпляльны сезон будзе каштаваць 1,7579 рубля, у летні перыяд – 0,8216 рубля. Пры адсутнасці індывідуальных газавых ацяпляльных прыбораў 1 кубаметр таксама будзе каштаваць 0,8216 (да індэксацыі – 0,7608 рубля).

Калі ў хаце ці кватэры не выкарыстоўваюцца прыборы індывідуальнага ўліку расходу газу, але ёсць газавая пліта і цэнтралізаванае гарачае водазабеспячэнне або індывідуальны газавы воданагравальнік (за выключэннем газавага), цана звадкаванага газу складзе 2,44 рубля з аднаго чалавека ў месяц. Пры наяўнасці газавай пліты і газавага воданагравальніка і адсутнасці цэнтральнага гарачага водазабеспячэння кубаметр звадкаванага газу будзе каштаваць 6,95 рубля (раней – 6,44 рубля), пры наяўнасці газавай пліты, адсутнасці цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння і газавага воданагравальніка – 3,26 рубля (было – 3,02 рубля).

Тарыф на звадкаваны газ у жыллё, дзе ёсць індывідуальныя газавыя ацяпляльныя прыборы, у ацяпляльны сезон складзе 5,7713 рубля за 1 квадратны метр агульнай плошчы жылога памяшкання ў месяц (было – 5,3438 рубля), летам – 0,8216 рубля (было – 0,7608 рубля). Кошт за 1 кілаграм газу ў балонах вагой 21 кілаграмаў у межах нормаў спажывання складзе 0,5835 рубля (было – 0,5404 рубля). Балон, такім чынам, будзе каштаваць 12,25 рубля (раней – 11,35 рубля).

Тарыф на электраэнергію ў жылых дамах і кватэрах, абсталяваных электрычнымі плітамі, складзе 0,1094 рубля за 1 кВт • ч (было – 0,1013 рубля). Дыферэнцыраваны тарыф у такіх жылых памяшканнях у перыяд мінімальных нагрузак (з 22.00 да 17.00) – 0,0764 рубля за 1 кВт • ч (раней – 0,0708 рубля), а ў перыяд максімальных нагрузак (з 17.00 да 22.00) – 0,2189 рубля (раней – 0,2027 рубля). Электрычная энергія для патрэбаў ацяплення і гарачага водазабеспячэння з далучанай магутнасцю абсталявання больш за 5 кВт у перыяд мінімальных нагрузак (з 23.00 да 6.00) складзе 0,09 рубля за 1 кВт • ч (да падаражэння – 0,0834 рубля), у астатні час сутак – 0,1674 рубля (было – 0,155 рубля).

Яшчэ адно павелічэнне кошту ЖКП чакае беларусаў 1 снежня.

## Усміхніцеся

Мужика замучали тараканы. Друг подсказал ему способ, как от них избавиться: перед сном пройтись по всем углам и сказать: «Жрать нечего, жрать нечего».

Они услышат, что жрать нечего, и уйдут. Мужик так и сделал. Лёг спать.

И вдруг среди ночи его кто-то толкает. Он зажигает свет и видит: все тараканы стоят у его кровати, а самый большой говорит ему:

«Вставай, хозяин! Мы тебе поесть принесли!»

***

Женщина-кондуктор говорит водителю автобуса на остановке:

- Степа, какой ты невнимательный сегодня, видишь ведь, что молодой человек бежит, подожди немного!
- Ладно, подождём.
- Ой, Степа, я его знаю, поехали быстрее, у него проездной!

***

- А вот я теще на день рождения подарил стиралку и сушилку!
- Наверно, кучу денег выкинул?
- Да не, всего баксов за 18!
- ??????????? Это что ж за техника такая?
- Тазик и полотенце!

***

Выходит стоматолог из кабинета, где остался лежать пациент, и нервно ходит из стороны в сторону, теребя подбородок. Медсестра его спрашивает:

- Что случилось? Сложный случай?
- Тяжелейший, у клиента бабла немеряно, а все зубы здоровые...

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Автор романа "Далеко от Москвы" | Прибор в авиации | | Вечнозеленое дерево | | Московский аэропорт | | Болезнь уха | Бродячий фокусник | |
| | | | | | Музыкальный интервал | | | | |
| | Единица длины | | Плеть | | | | | Сухие долины рек в Африке | |
| | | | | | Китайский крыжовник | | | | |
| | Шевелюра льва | | Швейцарский художник | | | | | | |
| | | | | | Брат Леха и Чеха | | Старинная медная монета | | Выгодное знакомство |
| | Британский солдат | | ... земной коры | | | | | | |
| | ... тесен | | | | | Интернет-... | | Страна в Европе | |
| | | | Юлия Волкова + Елена Катина | Хищная птица | | | | | |
| Мясное блюдо | Роман Жорж Санд | Самка собаки | Сизифов ... | Осел | Армянское мужское имя | | | | |
| | | | | | | | Ажио | | Прибор для сушки волос |
| Приток Рейна | | | | Континентальный ... | | | | | |
| Морская хищница | | | | | | Курорт в Сочи | | | |
| Зимний ... | | | | Летучая мышь | | | | | |

**Ответы на сканворд 34**

**По горизонтали:** Абажур. «Санин». Тирана. Регги. Тандем. Курьер. Забота. Омела. Арык. Пикап. Колесо. Уса. «Старка». Сукно. Гид. Полати.**По вертикали:** Антитеза. Айран. Ушное. Сирокко. Нагорье. Ара. Диор. Мрак. База. Тыл. Мыло. Лопе. Иссоп. Кот. Пурга. Саади. Коса. Люкс. Скит.

## ГАРАСКОП НА НОВЫ ТЫДЗЕНЬ

**АВЕН.** Усе прынцыповыя пытанні вам вырашыць, хутчэй за ўсё, не атрымаецца, але імкнуцца да гэтага трэба. Сярэдзіна тыдня - удалы час для заключэння дамоваў. Верагодна паступленне важнай інфармацыі. У другой палове тыдня ваша індывідуальнасць можа праявіцца ярка, што выкліча захапленне навакольных. Але не спыняйцеся на дасягнутым - наперадзе новыя вабныя гарызонты. Таксама вы можаце разлічваць на падтрымку сяброў. Канец тыдня лепш прысвяціць адпачынку і забавам. У выхадныя будуць удалыя паездкі і падарожжы.

**ЦЯЛЕЦ.** Новыя ідэі і планы лепш старанна прааналізаваць, звярнуць увагу на недахопы і ліквідаваць іх, і толькі пасля гэтага пачаць увасабляць у жыццё. Тыдзень будзе да крайнасці насычаны - верагодныя знаёмствы, сустрэчы, паездкі, паступленне вялікай колькасці новай інфармацыі. Не спрабуйце прымаць удзел ва ўсім, наўрад ці атрымаецца выкарыстоўваць усе магчымасці адразу - гэта прывядзе толькі да таго, што вы нічога не паспееце. Вас могуць збянтэжыць адносіны з сябрамі, вывяціце вытрымку і дапамажыце ім мудрым саветам.



**БЛІЗНЯТЫ.** На гэтым тыдні неабходна сканцэнтравацца на вырашэнні важных і неадкладных спраў. Паспрабуйце не марнаваць каштоўную энергію дарэмна. Вашы таленты ацэняць важныя для вас людзі. Магчымы пачатак новага цікавага творчага праекта. Скрануцца з мёртвай кропкі справы, на якія вы ўжо нават махнулі рукой. Варта ўсур'ёз задумацца аб надыходзячым адпачынку, калі ён у вас у планах. Правядзіце выхадныя з каханым чалавекам.



**РАК.** На гэтым тыдні непажадана абмяркоўваць сваё асабістае жыццё нават з блізкімі сябрамі. Душэўная праца, хоць і не прыкметная, таксама прынясіць свой плён, развівайце свой унутраны свет і паспрабуйце пазбягаць сварак з сваякамі. Вам цяпер не варта плыць супраць плыні, хіба што - з меркаванняў паляпшэння сваёй фізічнай падрыхтоўкі. На працы вас цэняць, ёсць шанец атрымаць прэмію. Пазбегнуць многіх канфліктаў вам дапаможа мудрасць і падатлівасць. Стары сябар пазбавіць ад перашкод у кар'еры.



**ЛЕЎ.** Дзелавая паездка на гэтым тыдні можа адкрыць перад вамі новыя перспектывы. Ёсць шанец, што поспех усміхнецца вам, таксама магчымы і зусім заканамерны ўзлёт у кар'еры. Рызыкоўныя прадпрыемствы завершацца паспяхова ў тым выпадку, калі вы правільна разлічыце свае сілы, і не будзеце ўскладаць вялікія надзеі на чыюсьці дапамогу. Не адцягвайцеся, рабіце сваю справу і не перашкаджайце іншым займацца сваімі пытаннямі. Цяпер неабходна працаваць на перспектыву.



**ПАННА.** Надышоў спрыяльны момант для пабудовы доўгатэрміновых планаў. Аднак пажадана не спяшацца і не прыспешваць падзеі. На гэтым тыдні вы не павінны прымаць усе падзеі, якія адбываюцца занадта блізка да сэрца. Такім чынам вы толькі дарма выдаткуеце нервы. Калі вы не ў сілах змяніць абставіны, то неабходна тэрмінова змяніць стаўленне да іх. Рабіце менавіта так, і тады хмары над вашай галавой рассеюцца бясследна. У другой палове тыдня лепш не пачынаць нічога новага.



**ВАГІ.** На гэтым тыдні будзе разумным занятца вывучэннем патэнцыйных магчымасцей сваіх партнёраў, ад гэтага могуць залежаць вашыя ўласныя магчымасці ў найбліжэйшай будучыні. Жыццё абяцае быць цікавым і насычаным. Аднак вам прыйдзецца апускацца з галавой практычна ў кожнае бягучае працоўнае пытанне, так што часу на асабістае жыццё амаль не застанецца. Зрэшты, магчыма, вам больш падабаецца свабода і незалежнасць.



**СКАРПІЁН.** Калі вы жадаеце дамагчыся вынікаў, трэба дзейнічаць хоць і мякка, але вельмі настойліва. Толькі не сядзіце, склаўшы рукі, нават калі вы зусім упэўнены ў тым, што ўсё неабходнае для поспеху ўжо зроблена. Ад вашай актыўнасці будзе залежаць увасабленне запаветных планаў у рэальнасць. У другой палове тыдня, займаючыся любімай справай, вы можаце здабыць згубленую гармонію. Будзьце клапатлівыя і далікатныя ў адносінах да блізкіх вам людзям, і яны абавязкова адкажуць вам тым жа.



**СТРАЛЕЦ.** Пажадана не брацца за важныя справы. Прадумайце свае словы і дзеянні. Магчымыя перапады настрою, што можа адбіцца на працы не заўсёды са станоўчага боку. На гэтым тыдні верагодна паступленне абсалютна неспадзяванай інфармацыі. Вас могуць засмуціць службовыя інтрыгі. Да канца тыдня вам атрымаецца прыцягнуць да сябе ўвагу кіраўніцтва і заручыцца падтрымкай уплывовых асоб. У выхадныя пажадана заняцца навядзеннем парадку ў доме, але не забывайце пра адпачынак.



**КАЗЯРОГ.** На гэтым тыдні цярпенне і здольнасць улічваць і прымяняць на практыцы самыя розныя парады і меркаванні дазволяць вам праявіць сябе ў якасці мудрага кіраўніка. Пачатак тыдня можа быць звязаны са спакусамі і навязной, у гэты час добра быць у дарозе. У сярэдзіне тыдня, нягледзячы на дробныя нестасоўкі і затрымкі ў справах, не адступайцеся ад задуманага, і ўсе праблемы ўладзяцца. У выхадныя дні сходзіце ў госці, наведайце бацькоў ці іншых сваякоў.



**ВАДАЛЕЙ.** На гэтым тыдні паспрабуйце пазбавіцца ад усяго непатрэбнага, дробнага, што перашкаджае вам як у прафесійнай дзейнасці, так і ў асабістым жыцці. Добры час для поўнага абнаўлення гардэроба і рамонту ў доме. У сярэдзіне тыдня паспрабуйце не прапусціць важнай інфармацыі. Пазбягайце мітусні і не саромейцеся смяяцца над сабой. Пазітыўны настрой вам неабходны. У канцы тыдня пажадана навесці парадак у справах, якія тычацца хатніх праблем. Прысвяціце дзецям больш вольнага часу.



**РЫБЫ.** У вас з'явіцца рэальны шанец ажыццявіць свае задумы, адзіным ворагам, які можа перашкодзіць вам, будзе ваша ж уласная мітуслівасць ці лянота. Першая палова тыдня можа быць асабліва насычанай і напружанай, але энергіі і сіл у вас хоць адбаўляй. Пажадана адкласці паездкі і камандзіроўкі. Паспрабуйце для рэалізацыі новых планаў і праектаў знайсці аднадумцаў. У другой палове тыдня можаце разлічваць на дапамогу сяброў, а ў выхадныя схадзіце на спатканне.

«Вольнае Глыбокае»
Заснавальнік:
Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.
Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб'ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 29. 08. 2017 г. у 17.00
Наклад 1400 паасобнікаў

Рэдактар:
Уладзімір Іванавіч Скрабатун.
Тэлефон/факс: (02156) 5-52-94;
E:mail: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў:
211800, г. Глыбокае, п/с №3
Замова № 466

Меркаванні выдаўца і аўтара могуць не супадаць. Аўтары матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор фактаў. Спасылкі на «Вольнае Глыбокае» абавязковыя.
Газета набраная і звярстаная на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае».
Надрукаваная ў друкарні ТДА «Знамение», г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14. Ліц. ЛП №02330/85 ад 23.01.2014
Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, пак. 1, г. Глыбокае